Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

6 мая 1998 года
СЕРАДА
№ 34 (114)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

### А им всего лишь двадцать лет

В апреле нынешнего года исполнилось 20 лет нотариальной конторе Ивацевичского района.

...А начиналось все очень просто. Учитывая возросшую потребность жителей района в нотариальных услугах (обращаться раньше приходилось в соседний Березовский район), 1 апреля 1978 года в г. Ивацевичи была открыта своя нотариальная контора. Штат ее на то время составлял... 1 человек — Ирина Николаевна Райко. Говорят, что один — в поле не воин. Тот, кто говорит много, — тот, может быть, и не воин, а кто работает...

Но времена нынче иные. Но любые времена не властны над истинными профессионалами. Сегодня штат нотариальной конторы существенно расширился, количество нотариальных действий — резко возросло. Руководит учреждением как и прежде — старший государственный нотариус Ирина Николаевна Райко, энергичная, красивая, обаятельная женщина. Вот несколько строк о ней из областной газеты "Заря", опубликованных под рубрикой "Лучшие люди Брестчины": "...грамотный, ценящий свою работу специалист, который всегда поможет найти выход из тупиковой ситуации..."

23 апреля нынешнего года Минюст РБ наградил Ирину Николаевну Райко за добросовестный труд, высокий профессионализм и в связи с 80-летием образования нотариата Беларуси Почетной грамотой.

"Газета для вас" сердечно поздравляет коллектив государственной нотариальной конторы и ее бессменного руководителя Ирину Николаевну Райко с 20-летним юбилеем. Учитывая молодость сотрудников, их привлекательность и обаяние, желаем весеннего настроения, жизненной бодрости и успехов в нелегкой работе.

### Некалькі слоў пра "беларускае эканамічнае цуда"

Як сведчаць афіцыйныя ўлады, на Беларусі працягвае крочыць стабілізацыя, альбо як казаў адзін з кіраўнікоў дзяржавы, "беларускае эканамічнае цуда".

Рэдакцыя "Газеты для вас" са здзіўленнем асэнсоўвае падобныя навіны, і не можа не звярнуць увагу сваіх чытачоў на некаторыя асаблівасці гэтага цуда.

Па-першае, дзесьці ўжо з месяц (і не першы раз аб гэтым гаворыць наша выданне) з продажу зусім знік цукар. Быццам яго і ніколі не было ў продажы ў нашым райцэнтры. Пакуль пакупнікі чакаюць з'яўлення яго па "адкручаных" цэнах у магазінах, ён прадаецца ў Баранавічах на рынку — о цуда, о жах! — па трыццаць тысяч за кілаграм. У якое цуда верыць — хай рашае сам пакупнік.

Па-другое, зусім прапалі танныя вінныя напоі. Калі яшчэ з месяц назад можна было сустрэць "Белую вежу" ў амаль любым магазіне, то зараз і тут не абышлося без "цуда" — і след прастыў ад гэтага віна, якое так любяць так званыя простыя людзі.

Праўда, ёсць імпартныя віны, але то па 130, то па 170 тысячаў за бутэльку...

...У "Залатым пеўніку" чабурэкі тыдзень назад каштавалі 9.200, сёння яны каштуюць — 10.800. Беларускае эканамічнае цуда, трэба лічыць, працягваецца.

І, нарэшце, долар. Тут, увогуле, адны цуды. Не паспелі загнаць яго ўладным загадам на месца, як ён узяў — зноў цуда! — падрос да 54 тысячаў рублёў (продаж — "чорны" рынак). Ніякага гневу не баіцца нахабнік. Праўда, у банках вісяць шыльды з курсам 44—46 тысяч зайцоў за адзін даляр, але туды не ходзяць ні пакупнікі, ні прадаўцы.

### Газета выступіла. Штосьці зроблена!

"Газета для вас" месяц таму пісала пра неахайны выгляд помніка У. Леніну на плошчы ля Дома Саветаў. Звярталася ўвага на тое, што на ім не толькі аблупілася фарба, але месцамі адстала тынкоўка, што можа быць крыніцай небяспекі для людзей, якія будуць знаходзіцца побач.

Нехта нашу заметку прачытаў і апаратыўна на яе адрэагаваў, пастамент перад днём нараджэння Ільіча пафарбавалі. Але, як звычайна, касметычным рамонтам усё і закончылася. Тым часам, ад пласта тынкоўкі, які працяглы час пагрозліва звісаў, адваліўся буйны кавалак. На жаль, мы не маем канкрэтных звестак — адбылося гэтае "свяшчэннае" падзенне 22 красавіка ці ў які іншы дзень. Але ж улічваючы тое, што гэты пласт тынкоўкі працягвае і далей адставаць, наша газета папярэджвае: беражыцеся Ільіча! Тынкоўка можа зваліцца на галаву не разбіраючы: камуніст ты ці просты смертны.

● ФОТАЗНАЁМСТВА З СУЧАСНІКАМ

## СТРАЛОК АХОВЫ СЯРГЕЙ КАСАВЕЦ



*Пяць гадоў працуе стралком ваенізаванай аховы газакампрэсарнай станцыі "Івацэвічы" Слонімскага ўпраўлення магістральных газаправодаў дзяржаўнага прадпрыемства "Белтрансгаз" Сяргей Касавец. Вызначаецца добрасумленнасцю, спраўна нясе сваю службу, карыстаецца аўтарытэтам у сваім калектыве.*

*НА ЗДЫМКУ: С. Касавец.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

БАРАНОВИЧИ

### Наркоплантации в деревнях

Недавно арестован наркобизнесмен из деревни Полонечка Барановичского района. Он скупал маковую соломку у одиноких бабок, которые выращивали мак "для себя". Милиция обнаружила несколько таких старушек, снабжавших дельцов сырьем для наркотиков.

Симптом более чем серьезный. На первый взгляд — безобидный. Оказалось, мак процветает во многих огородах, отдаленных от взглядов участковых милиционеров. Если эту, зарождающуюся в местных условиях наркоиндустрию не пресечь в корне, она, как зараза, распространится за пределы района.

### Таксисты сдались

Правительственное требование установить на частных такси таксометры и опознавательные знаки, возмутили барановичских "извозчиков". Несколько дней они бунтовали на площади им. Ленина. Власти и ГАИ выдержали натиск. Оформление таксомоторов, повышенные технические требования к автомобилю — это повышение качества обслуживания и безопасности пассажиров. Таков был ответ властей. Кому это не понравилось — оставили извоз. Остальные приступили к работе.

БЯРОЗА

### Звычайная з'ява?

Здаецца, у Бярозаўскім раёне стала звычайнай з'явай жульніцтва ў буйных памерах. Механізм яго даволі просты: махляры атрымліваюць па фальшывых дакументах прадукцыю і на дзяржаўных, і на камерцыйных прадпрыемствах. Пералік праведзеных імі "аперацый" — унушальны. Так, у раённым КБА жулікі па падробленых накладных вывезлі вялікую партыю спартыўных касцюмаў, з мясакамбіната — 8 тон каўбасы, з ДВП "Бярозабудматэрыялы" — адзін вагон абліцовачнай пліткі, з Белазёрскага СП "Белкельме" — абутак на 35 мільёнаў рублёў. Да гэтага часу махляры не злоўлены.

Аднак колькі вяроўачцы ні віцца, а канец жа бывае... У сакавіку па фальшывых дакументах з Пескаўскага спіртзавода было вывезена больш за 10 тысяч бутэлек спіртнога. А праз месяц аматары дармовай выпіўкі былі затрыманы. Імі аказаліся трое мінчан. У час следства па іх крымінальнай справе выяўлены яшчэ два факты крадзяжоў усё тым жа выпрабаваным метадам падробленых накладных.

● ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

## АДКУЛЬ БУДЗЕ ПАВАГА?

Рэклама спрацавала: купіў дзецям "Кіндэр-сюрпрыз". Смачны малочны шакалад з'елі імгненна, кругленькую пластмасавую бочачку хуценька раскрылі: дзеці заняліся сюрпрызам, мне шпурлянулі анатацыю да яго.

Разгортваю. О, на якіх толькі мовах тут не ўказваюцца правілы карыстання! Хуценька прачытаў тлумачэнне на ўкраінскай, пасля на рускай, пазнаў польскую, з цяжкасцю — латвійскую, літоўскую — усіх суседзяў зямлі нашай.

Ведаеце, на якой мове не напісана тлумачэнне ў анатацыі?

Вядома — здагадаліся!

Гэта можна было б і палічыць за абразу. Але... Хто сёння не абражае Беларусь і беларуса? Хто-кольвечы сцвярджае, што акрамя Расіі паўсюдна ў нас ворагі, якія Беларусь ненавідзяць. Ды і ў самой Расіі не ўсё чыста. І ў Беларусі ўсякія там "дэмакраты" і "националисты".

Але калі глянуць з іншага пункту гледжання на гэтае пытанне, то прабачце, за што нас любіць і паважаць? Прынцыпы дзяржаўнага будаўніцтва, што вядзецца на Беларусі, незразумелыя не толькі іншаземцам, але, напэўна, і самім "будаўнікам" дзяржавы. Хто не памятае, як А. Лукашэнка, прыйшоўшы да ўлады, хуценька заявіў, што суверэнітэт — "чепуха". Сёння такія выказванні ён не дапускае, але чаму мы павінны лічыць, што ўсё гэта не памятаюць у іншых дзяржавах?

"Ці ведаюць беларусы самі — хто яны ёсць і што ім трэба, — думаюць, напэўна, ва ўсім свеце, гледзячы на нашу мышыную валтузню вакол суверэнітэту, мовы, сімволікі. — Самі ведаюць, чаго хочуць?

Вы, беларусы, дабіваеце беларускую мову і хочаце, каб вас паважалі немцы, французы, італьянцы? Якой вы павагі хочаце?" — здаецца дапытваюцца ў нас суседзі...

*А. ГОРБАЧ.*

## ЧАЛАВЕК З НАТОЎПУ



Раніцай ён ідзе з тысячамі такіх як сам на абрыдлую працу. Яго нельга вылучыць па нейкіх асабістых прыкметах. Шэрая кепка і бязлікі твар пад ёй, усё іншае адзенне прыблізна таких жа колераў. Галоўнае, ні ў якім разе не вылучацца! Ні ў чым! Гэта — што для вусеня змяніць зялёны колер на нейкі іншы і адразу ж быць схопленым птушкай. Што ж, законы біялогіі дзейнічаюць і ў грамадстве.

Увечары, стомлены, ён вяртаецца дадому. Але душу грэе скрадзеная на родным прадпрыемстве, ці яшчэ толькі прыхаваная, нейкая рэч. А калі не ўдалося і гэта, то на худы канец хоць тое, што сёння ўпотай назваў начальніка "казлом".

Напярэдзе яшчэ прабежка па крамах у пошуках якой таннай ежы. Бо трэба размеркаваць так, каб дацягнуць да наступнай зарплаты. Перад сном "падпітка" мазгоў "Советской Белоруссией", затым замацаванне прачытанага "Рэзанансам" па беларускім тэлебачанні.

Раніцай цыкл паўтараецца. Кватэра, праца, крама, кватэра. Тры разы ў дзень, з года ў год. А жыццё ляціць і час нікога не чакае. Вясна для чалавека асацыіруецца не з птушыным гоманам і буянствам кветак, а з пачаткам дачнага сезона, які скончыцца толькі глыбокай восенню. Бо, каб выжыць узімку, трэба за гэты сезон як мага больш нарыхтаваць агародніны. Яшчэ трэба пастарацца, каб усё было "як у людзей". Тая ж дача, паношаны легкавік, што іржавее ў гаражы з прычыны недахопу грошай на паліва, сценка ў кватэры...

Час ляціць, жыццё ідзе, цыкл не спыняецца. Вось ужо месца чалавека ў натоўпе занялі ягоныя дзеці, унукі. І не спрабуюць выйсці, агледзецца, разамкнуць гэтае кола, знайсці свой асабісты шлях. Так і крочаць шэрай бясформеннай масай з тупой пакорлівасцю ў вачах...

*М. СІНКЕВІЧ, г. Бяроза.*

● ВАКОЛ СКАРГІ

# ЛЁГКА ПАКРЫЎДЗІЦЬ ІНВАЛІДА...

Шмат пытанняў узнікла ў мяне пасля таго, як я выслухаў аповяд А. А. Трусевіча, інваліда другой групы, жыхара Івацэвічаў, пазнаёміўся з адказамі на яго скаргу ад дырэктара Івацэвіцкага аўтапарка № 14 І. М. Хмялеўскага, ад генеральнага дырэктара дзяржаб'яднання «Брэстаблаўтатранс» Н. Н. Стрыжа, з пісьмовымі тлумачэннямі шафёра М. П. Крата і лінейнага кантралёра Г. А. Богдан з аўтапарка № 14, пасажыраў В. А. Кавалевіча, В. А. Ступак, І. М. Калтуневіча, М. В. Басалая, а таксама з публікацыяй «Не грубіце, вадзіцелі...» у газеце «Івацэвіцкі веснік» за 4 лютага гэтага года.

Што ж такое здарылася, якая бяда напаткала чалавека-інваліда і прымусіла пісаць скаргі, хадзіць па арганізацыях і рэдакцыях, шукаць сваёй праўды? У нашы дні гэта ж рабіць нялёгка.

А зараз вернемся да таго памятнага ці можа больш правільна сказаць злашчаснага дня 9 лістапада 1997 года, калі ўсё пачалося.

Адам Адамавіч Трусевіч рашыў вярнуцца дамоў у Івацэвічы з Целяхан, дзе знаходзіўся па справах. Прыйшоў на Целяханскую аўтастанцыю на маршрутны аўтобус.

— Калі падкаціў аўтобус з Пінска на Івацэвічы, — расказвае Адам Адамавіч, — я хацеў туды зайсці і сесці. Але кантралёр Богдан Аня, глянуўшы на інвалідскае пасведчанне, не пусціла мяне. Трэба, кажа, ісці ў білетную касу, каб у ведамасці адзначыць, што едзе інвалід. Я так і зрабіў. Потым кантралёр мяне пусціла ў аўтобус. Было многа людзей. Месцы ўсе заняты. Пасажыры стаялі і ў праходзе паміж крэсламі. Калі ўжо выязджалі з Целяхан, бачу, што запаснае крэсла ля кабіны шафёра свабоднае, відаць, яно для другога шафёра прадназначалася, калі іх бывае ў рэйсе двое. А тут адзін. Я прысеў на яго, праўда без дазволу, не дадумаўся спытаць. І тут жа пачуў ад вадзіцеля, што сядзеў за рулём: «Якое ты маеш права займаць гэтае месца?» (Заўважце, на старога чалавека і адразу — ты — С. К.). «Я ж інвалід», — адказаў яму. «Тут шафёрскае месца, — працягваў той жа вадзіцель, — і яго нельга займаць нікому. Ты будзеш перашкаджаць мне абілечваць пасажыраў».

Я хацеў яшчэ нешта сказаць у адказ, але шафёр не сунімаўся: «Уставай і стой. Будзеш стаяць да пасінення, а сюды больш не сядзеш».

Прыйшлося мне ўстаць і ўжо стаяць ля пустога крэсла да самых Івацэвічаў. Ледзь даехаў. Дахаты дабраўся з перадышкамі, а потым усю ноч не спаў — так балелі ногі.

Дарэчы, на прыпынках выходзілі пасажыры, але шафёр той не ўспомніў пра мяне, пра інваліда, не прапанаваў месца, хаця і па службе і па-чалавечы павінен быў зрабіць гэта. Крыўдна мне стала, як адносяцца да інвалідаў, і я напісаў скаргу...

Такім чынам, па словах Адама Адамавіча, паявілася скарга на вадзіцеля М. П. Крата, якую ён і занёс дырэктару аўтапарка № 14, дзе працуе той шафёр.

Пасля некалькіх тыдняў А. А. Трусевіч атрымаў пісьмовы адказ на сваю скаргу ад дырэктара аўтапарка № 14 І. М. Хмялеўскага. Гэты адказ не задаволіў Адама Адамавіча, і ён пасылае пісьмовую скаргу генеральнаму дырэктару дзяржаб'яднання «Брэстаблаўтатранс». Пісьмо-адказ з Брэста, якое атрымаў А. А. Трусевіч, паўтарае амаль поўнасцю тое, што напісалі яму з Івацэвіцкага аўтапарка.

Куды ж звярнуцца па дапамогу? Вырашыў і паслаў тую скаргу ў газету «7 дней». Доўга чакаў адказу, але не атрымаў.

Што рабіць? Падумаў і накіраваўся ў рэдакцыю раённай газеты «Івацэвіцкі веснік». Расказаў пра ўсё там падрабязна, паказаў паперы-адказы службовых асобаў і яму паабяцалі надрукаваць матэрыял пра шафёра-грубіяна. Праз месяц зноў завітаў у тую ж рэдакцыю, але яму там сказалі, што нічога не надрукуюць, бо факты, маўляў, не пацвердзіліся і няма падстаў скардзіцца на М. П. Крата, шафёра рэйсавага аўтобуса па маршруце Пінск—Івацэвічы, які быў 9 лістапада 1997 года.

А тут якраз раённае таварыства інвалідаў выпісала А. А. Трусевічу «Газету для вас». Таму рашэнне выспела адразу, і ён прыйшоў да нас у рэдакцыю.

— Мяне ўразіла крывадушнасць рэдактара раённай газеты «Івацэвіцкі веснік» Р. Радзюка, які спярша сказаў, што падрыхтаваў ужо матэрыял да друку, — паведаміў інвалід А. А. Трусевіч, — а потым рэзка адмовіў. Я не магу зразумець такіх людзей. Можа вы хоць праўду напішаце?

Каб разабрацца, хто ж каго пакрыўдзіў, прыйшлося ў аўтапарку № 14 перачытаць пісьмовыя тлумачэнні пасажыраў-сведак той мінулагодняй лістападаўскай паездкі.

З большасці гэтых папер вынікае адно: уся тая кароткая перамова або сварка з шафёрам і кантралёрам адбывалася не ў аўтобусе, а перад ім ці можа ў дзвярах перад пасадкай у аўтобус, калі А. А. Трусевіч, як інвалід, патрабаваў, каб яго ўзялі іменна ў гэты, што рухаўся з Пінска ў Івацэвічы.

Лінейны кантралёр Г. А. Богдан прасіла А. А. Трусевіча пачакаць, пакуль прыбудзе аўтобус Бабровічы—Івацэвічы, там павінны быць свабодныя месцы. Але інвалід, як піша яна, не захацеў слухаць аб гэтым, пачаў абзываць вадзіцеля дрэннымі словамі, што, маўляў, выклікала абурэнне многіх пасажыраў.

Амаль тое ж самае напісала пасажырка В. А. Ступак і дадала, што шафёр М. П. Крот «заўсёды ласкавы, добразычлівы, сумленны, уважлівы». А раней, у савецкія часы, я не сумняваюся, яшчэ напісалі б, што ён ударнік камуністычнай працы.

Вадзіцель М. П. Крот пацвердзіў у сваім тлумачэнні, што інвалід А. А. Трусевіч патрабаваў месца ў аўтобусе. Калі такое месца не прадаставілі, ён пачаў сварыцца з ім, абзываючы яго непрыстойнымі словамі і не захацеў чакаць другога маршрутнага аўтобуса.

«Я чуў прэтэнзіі А. А. Трусевіча да вадзіцеля М. П. Крата. Усе яго прэтэнзіі былі не абгрунтаваныя, так як у аўтобусе было многа пасажыраў старых, інвалідаў. Ён стаў лаяць вадзіцеля няддобрымі словамі». Такая выпіска з тлумачэння пасажыра М. В. Басалая.

Дарэчы, па словах А. А. Трусевіча, пасажыр М. В. Басалай, якога ён ведаў асабіста і шафёр таксама, у той дзень, 9 лістапада, сеў у аўтобус у Святой Волі і сышоў з яго не даязджаючы аўтобуснага прыпынку ў Вялікай Гаці. Ехаў якраз са Святавольскай бальніцы. Стаяў у дзвярах аўтобуса разам з Трусевічам, і яны размаўлялі між сабой. Значыць, калі верыць таму ж Трусевічу, М. В. Басалай не мог нічога чуць, бо ўсё было раней, яшчэ ў Целяханах.

Вось такія тлумачэнні і меркаванні з абодвух бакоў. Хто правы, а хто вінаваты, разабрацца, паверце, не проста. Паслухаеш Трусевіча — ён сваю праўду кажа, прачытаеш тлумачэнні пасажыраў — пачынаеш ім верыць.

А наконт тых пісьмовых тлумачэнняў, акрамя І. М. Калтуневіча, у інваліда Трусевіча адзін адказ — гэта ліпа, усё сфабрыкавана, каб выгарадзіць шафёра-грубіяна. Пасля расказу Адама Адамавіча пачынаеш чамусьці сумнявацца і ў праўдзівасці слоў пасажыра Басалая, які і два кіламетры не праехаў у аўтобусе, а ўсё як быццам ведае.

Калі ж шафёр М. П. Крот такі добры і не вінаваты ні ў чым, то чаму ж, як напісаў А. А. Трусевіч у сваёй скарзе ў Брэст, пасля тых пісьмаў падыходзіў да яго і казаў, што трэба паміріцца, распіць бутэльку гарэлкі і забыць пра ўсё. Бо яго могуць пазбавіць прагрэсіўкі. Але ж Трусевіч мірыцца не захацеў. Ён лічыць, што прымірэнне з вадзіцелем-грубіянам будзе недарэчным.

І яшчэ. А. А. Трусевіч прынёс да нас у рэдакцыю выразку з раённай газеты «Івацэвіцкі веснік» пад загалоўкам «Не грубіце, вадзіцелі» за 4 лютага гэтага года, у якой таксама інвалід, але ўжо з Пінскага раёна, выказала сваё абурэнне грубымі адносінамі вадзіцеля М. П. Крата да пасажыраў, у тым ліку і да яе. Шафёр не спыняўся, калі прасілі інваліды, не даваў білеты пасажырам...

І мне падумалася, ці выпадкова, што літаральна праз месяц пасля першай скаргі на вадзіцеля М. П. Крата паявілася і другая. Прэтэнзіі адны і тыя ж — грубасць. Чаму ж не напісалі скаргу на іншага шафёра, а менавіта на М. П. Крата? Па гэтым жа маршруце ездзяць і іншыя вадзіцелі аўтапарка.

Супадзенне гэта ці выпадковасць?

Але ж давайце паразважаем. Інвалід другой групы (а тую групу мы ведаем каму ўжо даюць) паўсотні кіламетраў едзе ў аўтобусе стоячы. Ведае аб гэтым вадзіцель, нават у ведамасці запісана. Пасажыры выходзяць і заходзяць, вызваляюцца, вядома, месцы. А ў кожным аўтобусе ёсць некалькі месцаў спецыяльна для інвалідаў. Як прызнаўся сам Трусевіч, у тым аўтобусе ён не заўважыў ніводнай таблічкі, дзе б паведамлялася аб месцах для інвалідаў.

Аднак у аўтобусе ёсць гаспадар у асобе шафёра. Дапусцім, інвалід не стрымаўся, сказаў не тое слова, можа і грубае. Крыўдна? Вядома. Але навошта было правацыраваць яго, зганяць злосць на старым чалавеку? Ці не лепш зрабіць усё (можна было і маладых папрасіць устаць), каб даць сесці інваліду. Не толькі паспачуваць, але паважна аднесціся да яго старасці (ніхто ад гэтага не застрахаваны, будзе старым і той жа М. П. Крот). Тады ён, інвалід, не толькі не будзе пісаць скаргі, а сам адумаецца і папросіць прабачэння. Я веру ў гэта. Толькі дабром, па-мойму, можна перамагчы зло.

Работнікі сферы абслугоўвання павінны працаваць толькі добрасумленна. Калі ж інакш, то трэба ўступаць месца другому з больш моцнымі нервамі, хто здольны кіраваць сабой, хто можа пераступіць праз уласнае сябелюбства. Словам, паводзіць сябе так, каб у салоне аўтобуса былі парадак і спакой, каб не прыходзілася ўпустую траціць нервы і час на непрыемныя сваркі, для збору розных тлумачэнняў, чытаць потым тыя скаргі, выслухоўваць ушчуванні начальства...

Ці закончацца на гэтым скаргі А. А. Трусевіча, сказаць адназна[illegible] даволі складана. Кажу[illegible], што ў інваліда цяжкі, супярэчлівы характар. Што ж, гады, наша нялёгкае жыццё, хваробы, неўладкаванасць даюць свае несуцяшальныя вынікі. Мы сутыкаемся, на нашу думку, з выпадкам, калі чалавек, яшчэ нядаўна дужы і здаровы, раптам разумее, што ён інвалід. І балюча ўспрымае кожнае слова, на якое раней мо і ўвагі не звярнуў бы. А калі бачыць, што асабістая бяда нікога не кранае, не прымушае службовых асобаў аддаваць інваліду ўсё тое, на што ён мае права па Закону, то надоўга страчвае раўнавагу... На жаль, на такія нюансы ў нашым г[illegible]мадстве цяпер мала [illegible] звяртае ўвагу.

*С. КАЖАДУБ.*

● НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ

# ПОЛАЦКІЯ ЗАНАТОЎКІ

Наведаў днямі Полацк, слаўны горад Рагвалода і Рагнеды. Першае ўражанне, што час не рухаецца і ты знаходзішся недзе-небудзь, а менавіта ў "добрай савецкай" Беларусі. Бо праз некалькі хвілін на ўездзе ў горад наш аўтобус трапляе ў кіламетровую аўтамабільную пробку, на пераадоленне якой губляем гадзіну. Прычына банальная — на мосце праз Заходнюю Дзвіну рамантуецца асфальтавае пакрыццё. На сярэдзіне моста стаіць заглушаны каток, побач самазвал з асфальтнай масай, якую няспешна скідвае рыдлёўкай рабочы ў аранжавай камізэльцы. Другі рабочы, унізе, гэтак жа няспешна, з пачуццём адказнасці за выконваемую працу разграбае яе па выбоінах. Наш кіроўца злуецца і лаецца, кляне "праклятую савецкую спадчыну". Іншыя, па ўсім бачна, робяць тое ж. Ад хуткай расправы з рамонтнікамі ўратоўвае толькі гіпертрафіраваная "памяркоўнасць і талерантнасць" беларусаў, не то — купацца б ім у халоднай красавіцкай вадзе. Колькі грошай вылецела ў паветра разам з дымам рухавікоў, колькі працоўных гадзін згублена, нервовых клетак сапсавана!

Напярэдзе — царква Сафія, і ўсе непрыемнасці хутка забываюцца. Вось і яна, на высокім беразе, узнёслая, велічная. Як можна назваць чалавека, што ўзарваў яе калісьці? Варварам? Але ж у сябе дома будаваў, "прасякаў акно ў Еўропу". Вар'ятам? Магчыма. Для тых, хто не ведае — размова пра Пятра І. І зараз яшчэ экскурсавод з гонарам паказвае домік, у якім спыняўся апошні. Сафія паўстала з руінаў. Праўда, у новым выглядзе, але на тым, старажытным падмурку, які пры жаданні можна паглядзець, памацаць. Служба ў царкве не вядзецца, памяшканне выкарыстоўваецца як канцэртная зала. За 50000 рублёў з асалодай слухаю гучанне найлепшага ў Беларусі аргана. Прычым вельмі добрая акустыка залы — якасць гуку ў розных кутках аднолькава выдатная.

Музей беларускага кнігадрукавання. Экспазіцыі пра паперу, кнігі, жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны, Сімяона Полацкага. І, о цуд! Сярод пажаўцелых старадаўніх кніг і друкарскіх прылад, пад столяй, замест распаўсюджанага чырвона-зялёнага вісіць бел-чырвона-белы сцяг. Відаць, не часта наведваюць дзяржаўныя чыноўнікі гэты музей.

Спаса-Ефрасіннеўская царква, што на тэрыторыі жаночага манастыра. Мігаценне мноства свечак, старажытныя фрэскі на сценах. Тут яе захоўваюцца мошчы Святой Ефрасінні Полацкай. Скінуўшы абутак, старанна праходжу міма пад наглядам дзвюх манашак. Па паданню, гэта пазбаўляе ад усялякіх хвароб і недамаганняў, бо мошчы маюць цудадзейную сілу. І напрыканцы яшчэ інфармацыя для жадаючых наведаць святое месца. **5 чэрвеня тут адбудзецца ўрачыстасць, прысвечаная светлай памяці заступніцы Беларусі.** Чакаецца ўдзел царкоўных патрыярхаў і будзе магчымасць пагладзець аднаўленую святыню беларускага народа — крыж Ефрасінні Полацкай.

*М. СІНКЕВІЧ,*
*г. Бяроза.*

● СПОРТ

# НА СТАРТ ВЫЙШЛІ ПАЖАРНЫЯ

Шырока вядома, што пажарным для таго, каб паспяхова ўтаймоўваць магутную вогненную стыхію, неабходна пастаянна заставацца ў належнай фізічнай форме. Дзеля гэтага праводзяцца трэніроўкі і вучэнні. Але пажарныя гэтым не абмяжоўваюцца. У падраздзяленнях даволі часта праводзяцца розныя спаборніцтвы, чэмпіянаты, турніры і г. д. Вось і нядаўна два дні запар на базе Івацэвіцкага АВПС праходзілі спаборніцтвы па лёгкаатлетычнаму кросу на першынство Брэсцкага абласнога ўпраўлення ваенізаванай пажарнай службы. Праграма спаборніцтваў складвалася з бегу на 3000 м, 5000 м і 8000 м, а яшчэ эстафеты 5x1500 м. У гэтых спаборніцтвах, а праходзілі яны ў г. Косава, прымалі ўдзел каманды — прадстаўнікі 18-ці атрадаў і часцей ваенізаванай пажарнай службы вобласці агульнай колькасцю 120 чалавек. Каманду нашага Івацэвіцкага АВПС рыхтаваў і ўзначальваў капітан унутранай службы памочнік начальніка штаба пажаратушэння пры АВПС Ю. В. Журомскі.

Па выніках спаборніцтваў 1-е месца прысуджана зборнай камандзе АВПС г. Пінска і Пінскага раёна. На другім месцы — каманда Баранавіцкага АВПС. Зборная каманда Івацэвіцкага атрада ў даволі складанай, напружанай барацьбе заняла 3-е месца. У складзе каманды нашага раёна барацьбу вялі пажарныя А. Ф. Свігла, А. А. Вашчыла, В. А. Самсановіч і вадзіцель В. Э. Бакаеў з Івацэвіцкай ВПЧ, камандзір аддзялення асобнага паста ВПС в. Гортаць Б. С. Шабацька і камандзір аддзялення АП ВПС в. Дабромысль В. М. Голуб.

Каманды, заняўшыя прызавыя месцы, узнагароджаны Ганаровымі граматамі і грашовымі прэміямі.

*В. МОЛАШ,*
*ст. супрацоўнік ЦНППБ АВПС*
*Івацэвіцкага раёна.*

● ЧЕРНОБЫЛЬСКИЕ ПРОБЛЕМЫ

# ПОСЛЕДСТВИЯ КАТАСТРОФЫ НА ЧАЭС НЕ УСТРАНЕНЫ, НО БЕЛОРУСЫ СМИРИЛИСЬ С НИМИ

По данным заместителя министра по чрезвычайным ситуациям Беларуси Игоря Ролевича, в 1986 году 2 миллиона 200 тысяч жителей республики проживали на пораженных в результате аварии на Чернобыльской АЭС территориях с плотностью заражения 1 Кюри на квадратный километр и выше. Сейчас, как полагают в министерстве, их численность составляет 1,8 миллиона человек. Это уменьшение произошло в основном вследствие снижения зараженности территорий из-за распада радионуклидов со скоростью примерно 3 процента в год.

Об изменении актуальности чернобыльской темы в общественном сознании говорят результаты двух социологических исследований. В 1995 году, по данным НИСЭПИ, белорусы опасались больше всего: недоступности продуктов питания и товаров первой необходимости – 64,3 процента респондентов, последствий чернобыльской катастрофы – 53,4 процента, гражданской войны – 47 процентов, невозможности оплаты коммунальных услуг – столько же. То есть, Чернобыль, ставший после 26 апреля 1986 года главной угрозой для жизни, отошел в 1995 году в общественном сознании на второй план.

По данным же социологического опроса, проведенного Институтом социологии Национальной академии наук в 1997 году, Чернобыль отходит уже даже не на второй, а на третий план. «Беларусь устала от Чернобыля» – так иногда комментируют этот факт. Но не потому, что он мало значим, но просто есть еще более острые проблемы. И не случайно, пренебрегая этим фактором, в зоны отселения устремляются неустроенные в жизни люди – так называемые самоселы.

В общем, Чернобыль создал клубок проблем, нераспутанный до сих пор. Попробуем выделить хотя бы некоторые «нити» из этого клубка и показать их переплетение.

**Медицинские последствия**

В первые дни после аварии радиоактивный йод с периодом полураспада 8 суток загрязнил фактически всю территорию республики. Население получило «йодный удар». В результате заболеваемость раком щитовидной железы у детей возросла почти в 50 раз; у мужчин количество таких заболеваний увеличилось по республике в 1,5 раза, по Гомельской области – в 6 раз; у женщин по республике — в 18 раз, по Гомельской области – в 76 раз. И это – один только йод. А ведь есть еще цезий, стронций, плутоний, церий и другие радионуклиды.

Данные по рождениям детей с врожденными пороками развития показывают повышение частоты появления аномалий на десятки процентов по сравнению с дочернобыльским периодом, что позволяет говорить о послечернобыльском генетическом вырождении нации. А есть ведь еще психоневрологические последствия радиации в форме подавленного настроения, ослабления памяти, снижения умственных способностей... Это прежде всего касается детей, и потому некоторые ученые-медики настаивают на том, чтобы был проведен сплошной мониторинг всех детей республики для выяснения состояния их здоровья и спасения тех, кого еще можно спасти.

Но политика вмешивается и в эту сферу. Не надо преувеличивать, говорят представители официальной медицины. Кто докажет, что ухудшившаяся статистика по здоровью есть прямое следствие Чернобыля, а не общего ухудшения экологии, которая отмечается во всем мире, а не только в Беларуси?

И еще один политический мотив. БНФ напоминает об эпизодах 12-летней давности, когда атомное облако от взорвавшейся ЧАЭС, направлявшееся ветром в Россию, по приказу из Москвы было осаждено на территории Беларуси. И обвиняют власти в том, что они не стребовали десятки миллиардов долларов с России, а заключили с ней Союз.

**Социальные выплаты**

В 1991 году в Беларуси был принят закон «О социальной защите граждан, пострадавших от катастрофы на Чернобыльской АЭС». В соответствии с ним каждому проживающему на территории с уровнем загрязнения 1—5 Кюри на 1 кв. км («зона периодического радиационного контроля») выделялось ежемесячное пособие в сумме 15 рублей, а с плотностью свыше 5 Ки/кв. км – 30 рублей. С учетом индексации, производимой Минстатом, сейчас эти суммы должны бы составлять 189 и 378 тысяч рублей соответственно. Реально же выплачивается 22 и 44 тысячи рублей, то есть, в 8,6 раза меньше.

Тем же, кто в результате катастрофы на ЧАЭС стал инвалидом 1-й группы, по закону 1991 года назначалась единовременная компенсация в размере 10 тысяч рублей. Сейчас она сведена до 5 миллионов рублей. Иначе говоря, цена здоровья в Беларуси стала около 110 долларов.

По закону 1991 года, семьям и родителям погибших при ликвидации последствий чернобыльской катастрофы выплачивали пособия: 10 тысяч рублей – семье, 5 тысяч – родителям. Сейчас эти суммы сведены до 5 миллионов и 2,5 миллиона рублей соответственно. То есть, в 165 долларов оценивается теперь в Беларуси человеческая жизнь.

Расчеты показывают, что реальные выплаты с 1991 года снизились: инвалидам, семьям и родителям погибших – в 23 раза; работающим на загрязненных территориях – в 17 раз.

Такого рода данные дают оппозиции основания проводить ежегодно «Чарнобыльскі шлях», а противникам атомной энергетики – ставить риторический вопрос : как можно отстаивать столь опасную технологию энергопроизводства в условиях, когда государство не в состоянии обеспечить компенсацию последствий катастрофы – чернобыльской и той, что может еще произойти?

Свыше 130 тысяч человек, отселенных из пораженных зон, — это чуть ли не единственное в деятельности властей, что белорусская опозиция и экологи оценивают положительно. Но даже и это, оказывается, может быть поставлено под сомнение: тех ли отселяли? с тех ли территорий? Дело в том, что многолетние результаты исследований российских ученых по малым дозам показали, что их воздействие оказывается сравнимым по многим показателям с воздействием доз, в двадцать раз больших. Объясняется это тем, что малые дозы, в отличие от больших, не включают у людей и животных нужных защитных механизмов, и воздействие на организм становится сравнимым. Так что Беларуси, возможно, еще предстоит пересмотр всей концепции зон отселения и отчуждения.

*В. ТРЕТЬЯКОВ, журналист, БелаПАН.*

# Для дома, для семьи, для души...

☺ *З АЛЬБОМА НЕСЯМЕЙНАГА*



*Вясна — гэта радасць флейты,*
*Калі налiецца поўня*
*І хмелем бяроз палескiх*
*Дзявочыя сэрцы поўнiць.*
*Вясна — гэта звон цымбалаў,*
*Калі суседава хата*
*Гамонiць, звiнiць удала*
*Няўтольным келiхам свата.*
*А гамаю свежых фарбаў*
*Прасочыцца ўсход бяскрайнi,*
*Аркестру руладнаму варта*
*Стозыкагалосае ранне.*

*Фотаэцюд А. ГАНЧУКА.*

☺ *НАРОДНЫЙ КАЛЕНДАРЬ*

Все приметы мая-травеня наполнены заботами об урожае. Как ни погожи майские деньки, а перепадают в нем и холода: "Ай, ай, месяц май — и тепел и холоден! "Вообще-то в мае два холода: когда черемуха цветет и дуб распускается. Кстати, холода в мае селянам желательны. "Май холодный — год хлебородный", — говаривали в старину. Бытовали и такие выражения: "Сей в ненастье, а собирай в ведро", "Майский мороз не выдавит слез". Особенно важны в мае дожди: "Коли в мае дождь — так и будет рожь", "Март сухой, да мокрый май — будет добрый каравай!".

"Сколько в мае дождей, столько лет быть урожаю. Даст небо дождь, а земля рожь", — говорили крестьяне.

Дождь в мае хлеба подымает и лишним не бывает.

☺ *ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...*

## *Сколько языков имеют земляне?*

В целом земляне говорят на 600 языках. От 20 до 50% их исчезнет в ближайшие десятилетия.

**Немецкий язык** принадлежит к большой группе индогерманских языков. Он является родным более чем для 100 млн. человек в разных странах. Почти каждая десятая книга, выпускаемая в мире, написана по-немецки. Среди языков, с которых делаются переводы, немецкий занимает третье место после английского и французского. И немецкий — это тот язык, на который больше всего переводится.

**Швейцария** — одна из самых красивых стран Европы, страна голубых озер, альпийских лугов, старинных замков. Она объединяет в своих 26 кантонах национальные особенности и культуру нескольких стран. И недаром в стране... четыре государственных языка — немецкий, французский, итальянский и ретороманский.

Рекордное же место по числу языков, используемых населением, держит государство **Папуа-Новая Гвинея**. Здесь жители говорят на 862 языках. На втором месте **Индонезия** — 701 язык, на третьем — **Нигерия**, 435 языков. В **России, Непале, Бирме** и **Эфиопии** по сто с небольшим языков. Обитатели **Африки** говорят на 1700 языках. **Самый короткий алфавит** имеет таитянский язык — 13 букв.

☺ *ХОТИТЕ – ВЕРЬТЕ...*

## *Чтобы дурные сны не сбывались,*

...нужно, проснувшись, не смотреть в окно или произнести одно из заклинаний:

*Куда ночь, туда и сон.*
*Хороший сон воскресни, плохой пополам тресни.*
*Что увидела во сне, не увижу наяву.*

**Дни, когда сбудется сон**

**Воскресенье** — сон сбудется до обеда или через год.
**Понедельник** — исполнится для тех, кто родился в этот день.
**Вторник** — сон может исполниться только через 7-10 лет.
**Среда** — сон предвещает.
**Четверг** — сон не исполняется.
**Пятница** — сон предсказывает.
**Суббота** — сон сбывается, но не всегда.
Сон, увиденный в **воскресенье,** никому не рассказывай.

☺ *ХОЗЯЙКЕ НА ЗАМЕТКУ*

## *Ботвинья по-монастырски*

Шпинат и щавель отдельно перебрать, промыть и порознь припустить в небольшом количестве воды, протереть и соединить вместе. Разбавить квасом, приправить солью, сахаром, цедрой и соком лимона, поставить на холод (в холодильник).

Подавать к столу, разлив по тарелкам, заправить мелко нарезанными укропом, петрушкой, свежими огурцами, хреном по вкусу.

В тарелки можно положить по кусочку рыбы (отварной, копченой).

☺ *УЛЫБНИТЕСЬ*

## *И сказала кроха...*

В детском саду шепчутся две подружки:

— Катя, я тебе один секрет шепну: я знаю, как рождаются дети.

— Подумаешь, тоже мне секрет! — фыркает Катя. — Я вот знаю, что надо делать, чтобы их не родить.

XXX

— Ах, Петенька, ведь ваза, которую ты разбил, сделана в шестнадцатом веке...

— А я испугался — думал, что она новая.

